

Газета заснавана ў 1938 годзе.
Адноўлена ў 1997 годзе.

# Газета Слонімская

№ 16 (97). 15 — 21 красавіка 1999 г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Распаўсюджваецца ў Слоніме, Зэльве, Дзятлаве, Мастах. Кошт 20 тыс. руб.

## БУСЛЫ Ў БЕЛАРУСКІЯ ВЁСКІ ПРЫНОСЯЦЬ АД ШЧАСЦЯ КЛЮЧЫ...



Фота Мікалая СУПРУНА

Ці прынеслі ключы ад шчасця буслы вёсцы Сынковічы Зэльвенскага раёна, дзе зроблены гэты здымак, — чытайце на стр. 3.

## КАМСАМОЛЬЦЫ ПАЛОХАЮЦЬ НАТА

**Нядаўна беларускія камсамольцы (Ленінскі камуністычны саюз моладзі Беларусі) прынялі зварот "Наш адказ НАТА". Выказваючы сваю салідарнасць з народам Югаславіі, камсамольцы заклікаюць жыхароў Беларусі аб'явіць байкот таварам, выробленым у краінах Паўночнаатлантычнага блоку...**

Гэтая заява беларускіх камсамольцаў нагадала анекдатычны "Наш адказ Чэмберлену", які калісьці савецкія працоўныя пасылалі брытанскаму палітыку.

Вось і цяпер камсамольцы хочуць напалохаць Захад, у прыватнасці НАТА. Яны супраць "іх" тавараў, фільмаў. "Грамадзяне Беларусі, — гаворыцца ў звароце, — павінны памятаць, што, купляючы прадукцыю натаўскіх вытворцаў, яны фінансуюць бамбардзіроўкі мірнага насельніцтва...". Камсамольцы спадзяюцца, што такім чынам беларусы перастануць карыстацца "натаўскімі" таварамі. Нават у суседняй Польшчы, якая нядаўна стала сябрам блоку, нічога не будуць купляць... Думаюць, што не будуць яны глядзець і "іх" фільмы. Гэтага, дарэчы, патрабуюць і віцебскія ветэраны. А што яшчэ глядзець, калі наша кінастудыя "Беларусьфільм" у стане выпускаць у год толькі некалькі фільмаў?!.. Нічога, чамусьці, не гаворыцца ў дакуменце пра грошы. Ці камсамольцы самі не могуць адмовіцца ад даляраў, марак, фунтаў?

У імкненні абараніць сербаў ад НАТА розныя арганізацыі і палітыкі прапануюць самыя разнастайныя "рэцэпты" гэтай абароны. Хтосьці піша падобныя звароты, хтосьці арганізуе запіс добраахвотнікаў на "балканскую вайну". Іншыя пасылаюць сербам гуманітарную дапамогу. А вось Расія накіравала ў Міжземнае мора свой ваенны карабель. Рускія генералы махаюць кулакамі, абяцаючы паказаць "гэтым натаўцам" сілу "славянскага братэрства". І ў той жа час Расія бярэ гуманітарную дапамогу ад ЗША, чакае валютных крэдытаў з Захаду.

У слонімскім гарадскім аўтобусе ледзь не плакаў падвыпіўшы хлопец:

— Там амерыканцы бомбяць нашых праваслаўных братоў, а вам на гэта напляваць! — крычаў ён, апелюючы да пасажыраў. — Я пайду ваяваць за сербаў!..

— Дарэмна ты так, — сказаў сівы мужчына, — я сам былы ваенны. Хопіць нам Афгана, Чачні. Не дай Бог улезці ў новую вайну...

Не дай Бог. Тым больш, што ўжо плануецца дзяржаўны саюз Беларусі з Югаславіяй, з ваюючай краінай... Заўсёды было так, што ад непрадуманых рашэнняў палітыкаў найперш цярпелі простыя людзі. Той, хто заклікае ехаць добраахвотнікамі ў Югаславію, у акопах сядзець не будзе. Той, хто заклікае народ адмовіцца ад "натаўскай" прадукцыі, наўрад ці сам ад яе адмовіцца. Многім палітыкам серб- скае пытанне патрэбна для набору палітычнага рэйтынгу. І яны нічым не рызыкуюць. А сапраўднай, шчырай ахвярнасці, як звычайна, чакаюць ад простых грамадзян...

Беларусь сёння — гэта востраў у вольнай Еўропе, своеасаблівы палігон, дзе выпрабоўваецца цярпенне аднаго асобна ўзятага народа. Здаецца, час тут павярнуў назад. У турмах зноў сядзяць палітзняволеныя (нават кандыдат у прэзідэнты), тэлебачанне — афіцыёз брэжнеўскіх часоў, дзе большую частку эфірнага часу аддаюць аднай асобе. А што тут дзіўнага? Нядаўна Беларусь трапіла ў лік краін, дзе мае месца "кампанія тэрора ў адносінах да мірных грамадзян". У спісе наша краіна стаіць побач з Кубай, Кітаем, Югаславіяй, Іракам, Экватарыяльнай Гвінеяй... Каментарый тут, мусіць, не патрэбны.

**Сяргей ЁРШ**

**СКАНДАЛ**

### Дэбош начальніка міліцыі

**12 красавіка ў дзве гадзіны ночы начальнік Мастоўскага РАУС падпалкоўнік Мячыслаў Улан у п'яным стане ўчыніў разборкі ў кафэ "Купалінка".**

Спачатку ён беспадстаўна збіў аднаго з наведвальнікаў. Затым выклікаў дзяжурны нарад міліцыі і высвятленне адносінаў перамясцілася на вуліцу, дзе начальнік стаў пагражаць людзям рознымі тэрмінамі зняволення. Нарэшце падпалкоўнік выхапіў пісталет і, зрабіўшы некалькі выстралаў у паветра, пачаў страляць паверх галоў людзей. Потым прыставіў пісталет да грудзей грамадзяніна К. і загадаў: "На калені, сука!". Калі чалавек паспрабаваў адхіліць ад сябе зброю, на дапамогу начальніку падаспелі міліцыянеры. Убачыўшы побач сваіх падначаленых, Улан нанёс мужчыне два ўдары рукаяткай пісталета ў твар...

Гэта жудасная сцэна адбывалася на вачах некалькіх дзесяткаў наведвальнікаў кафэ. Урэшце рэшт міліцыянеры павезлі свайго гарачага міліцэйскага начальніка дамоў, а пацярпелыя звярнуліся з заявай у дзяжурную часць міліцыі. Па папярэдніх дадзеных у той жа дзень падпалкоўнік Улан быў адхілены ад пасады на перыяд службовага расследавання ягонага ўчынку.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

**НАВІНЫ**

### Будзе новы дом

**На мінулым тыдні ў Слоніме на Брэсцкай вуліцы паміж дамамі 107 і 103 пачала працаваць тэхніка.**

Як паведаміла карэспандэнту "ГС" інжынер упраўлення капітальнага будаўніцтва Слонімскага гарвыканкама Лілія Клыбік, там пачалося будаўніцтва дзевяціпавярховага кааператыўнага дома. У ім будзе 71 кватэра.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

### Хоць памры, а трактарыста знайдзі

**Урад Беларусі выдаў загад, каб гарадскія арганізацыі выдзялялі тэхніку калгасам і саўгасам на перыяд сяўбы. І "вертыкаль" паспяшалася яго выконваць.**

Мастоўскаму раённаму вузлу электрасувязі загадалі вылучыць траіх механізатараў з тэхнікай. Аднак выканаць гэта распараджэнне не выпадае магчымасці, бо ў штатным раскладзе сувязістаў толькі два трактарысты.

**Антон МАКЕЙ**

**ЦИТАТА НОМЕРА**

...Хозяйства Слонимщины выходят из зимовки скота с заметным падением большинства основных показателей...

За три месяца текущего года валовой удой молока сократился на 8%. Снизились суточные привесы крупного рогатого скота на 73 и свиней — на 41 грамм.

***Станислав ЗДАНОВИЧ,***
***председатель Слонимского райисполкома, "Гродненская правда", 6 апреля 1999 года***

**ТРИБУНА**

## ОТСТОИМ СВОИ ПРАВА

Обсуждение проекта декрета президента Республики Беларусь "О мерах по стимулированию труда, укреплению трудовой дисциплины" прошло во всех структурных подразделениях Слонимского территориального медицинского объединения. Сотрудники ТМО, а их 1,5 тысячи человек, поручили мне, как председателю профсоюзного комитета, высказать следующее.

Заключение контрактов со всеми работниками, предусмотренное настоящим декретом, противоречит Кодексу законов о труде Республики Беларусь, существенно ухудшает положение и ограничивает права работников... Нарушается гарантированное Конституцией Республики Беларусь право граждан на труд, как наиболее достойный способ самоутверждения человека.

Укрепление трудовой и исполнительской дисциплины — проблема серьезная и очень важная. Однако пугающими декретами решать ее нельзя. Жить под постоянным страхом потерять работу — это своеобразная узда. Но нельзя забывать о том, что страх вынуждает человека к послушанию, а не осознанию им необходимости соблюдать дисциплину. Кроме того, страх пробуждает и самые низменные человеческие пороки: лизоблюдство, лживость, наушничество.

Если декрет вступит в силу, то десятки, сотни тысяч граждан Беларуси попадут в полную зависимость к нанимателям. Этого допустить нельзя! Никакая денежная компенсация, предусмотренная настоящим декретом, не окупит ухудшение правового положения работников.

Мы обращаемся ко всем жителям города: изучите внимательно предлагаемый проект, обсудите его в трудовых коллективах и выскажите свое мнение. Задумайтесь о будущем, ведь этот декрет коснется каждой семьи. Мы должны отстоять права людей труда, свои собственные права. А если нам не удастся это сделать — грош нам цена.

**Татьяна КОЖЕНКОВА,**
**председатель профсоюзного комитета Слонимского ТМО**

**НАБАЛЕЛАЕ**

## КАМУ ВЕРЫЦЬ?

Менавіта з такім пытаннем звярнуўся да мяне падчас наведвання Слонімскай механізаванай брыгады малады афіцэр, лейтэнант Віталь Кусянкоў.

Справа ў тым, што некалькі гадоў таму ён разам з іншымі вайскоўцамі ўступіў у жыллёва-будаўнічы кааператыў "Даватар". Бескватэрныя афіцэры і прапаршчыкі вырашылі ўкласці ў будаўніцтва сродкі, каб набыць сваё жыллё. Увесь гэты час іх цешылі абяцанкамі, што вось-вось пачнецца закладка падмурка пад будучы 60-кватэрны жылы дом на вуліцы Даватара.

— У сакавіку, калі брыгаду наведваў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, — сказаў Віталь Кусянкоў, — з яго вуснаў прагучала, што жыллёвая праблема слонімскіх вайскоўцаў хутка будзе вырашана. Камандзір брыгады Іван Чаус таксама запэўніў, што будаўніцтва дома пачнецца ў красавіку.

Аднак, па словах лейтэнанта Кусянкова, месца, дзе павінна распачацца будоўля, да цяперашняга часу занята платнай аўтастаянкай. Яе ўладальнік не толькі не збіраецца пакідаць гэту тэрыторыю, але, наадварот, — пашырае яе межы.

Тым часам армейская газета "Во славу Родины" паведаміла, што ў Слоніме ўжо закладзены падмурак 60-кватэрнага жылога дома для вайскоўцаў.

— Дык каму верыць? — пытаецца Віталь Кусянкоў. Але самае галоўнае, як зазначыў афіцэр, што члены жыллёва-будаўнічага кааператыва не ведаюць, хто вінаваты ў тым, што будаўніцтва да цяперашняга часу не пачалося?

**Валянцін ЧУРЫЛА**

# КАГО СКЛІКАЮЦЬ ЗВАНЫ?

— Чаму моладзь не ходзіць у царкву?

З такім пытаннем я звярнуўся да сталых праваслаўных прыхажанаў, якія на Вербніцу стаялі каля храма.

— Каб па-Божаму выхаваць чалавека, патрэбна, каб ён з маленства наведваў царкву, — пачала разважаць адна з жанчын. У сучасным свеце, дзе пануе насілле, усё часцей узнікае пытанне: да чаго імкнуцца людзі?

Дасягненні сучаснай тэхнікі выклікалі ў людзей думку, што Бог нам ужо не патрэбен, што чалавек можа кантраляваць усё і кіраваць літаральна ўсім.

— У выніку такога легкадумства, — лічыць верніца, — мы можам хутка апынуцца на мяжы, за якой губляецца чалавечнасць. Куды сёння ідзе маладое пакаленне? І што шукае яно ў штодзённым жыцці, калі юнакі і дзяўчаты пазбаўлены сямейнага выхавання, загіпнатызаваныя тэлебачаннем?

— Цяпер моладзь не імкнецца да ідэалаў, патрыятызму, павагі да чалавека. Яна пазбаўлена ўсяго таго, што можа звацца сапраўдным шчасцем, — лічыць другая жанчына.

— Дык якое выйсце з такога становішча? — запытаўся я ў вернікаў.

— Праблема духоўнага выхавання дзяцей у тыя часы, калі ў школах выкладаўся закон Божы, вырашалася працей, — пачала гаварыць адна жанчына. — Паміж царквой і школай існавалі даволі моцныя сувязі. Пазней, у часы масавага атэізму, гэтыя сувязі былі парушаны. І цяпер слонімская праваслаўная царква спрабуе іх аднавіць, дзякуючы нядзельнай школе, якая створана пры Свята-Троіцкім храме. Больш як 60 дзетак горада яе наведваюць. Але ў якіх умовах праходзяць заняткі? — з сумам кажа сланімчанка.

— Хлопчыкі і дзяўчынкі вымушаны пісаць на каленях, седзячы на лаўках у царкве. Спецыяльнага памяшкання для школы царква не мае.

У размове з вернікамі высветлілася, што царква неаднаразова звярталася да гарадскіх уладаў з просьбай аб выдзяленні пакоя для нядзельнай школы ў будынку інтэрната медвучылішча, які раней цалкам належаў царкве. Аднак просьба засталася без увагі.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## НАВІНЫ

### "Наша слова"

**Выйшаў у свет чатырохсоты нумар газеты "Наша слова".**

Выдаецца газета ў Лідзе выключна на энтузіязме Станіслава Судніка, які зараз з'яўляецца не толькі рэдактарам газеты, але і яе карэктарам і вярстальшчыкам.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

### Беларусь в "черном списке"

**Государственный департамент США включил Беларусь в «черный список» стран, где нарушаются права человека.**

На 55-ой ежегодной сессии Комиссии ООН по правам человека, которая открылась в Женеве, помощник госсекретаря США Харольд Хонгью Ко огласил список из 13 стран мира, где имеют место «компании террора в отношении собственных граждан», «жестокое подавление» и «авторитарная практика». Вместе с Беларусью в «черный список» вошли Югославия, Китай, Куба, Ирак, КНДР, Судан, Афганистан, Иран, Алжир, Экваториальная Гвинея, Демократическая Республика Конго и Бирма.

Как отметила в одном из последних номеров российская газета «Коммерсант-Дейли», Беларусь попала в такой список впервые, хотя поводов для этого было достаточно. Кроме того, по информации «Коммерсанта-Дейли», сейчас в США заговорили о возможности отмены для Беларуси режима наибольшего благоприятствования.

**БелаПАН**

## ЗДАРЭННІ

### Загаварыла сумленне

**Грамадзянін К., які жыве ў вёсцы Дзям'янаўцы Дзятлаўскага раёна,** у свайго аднавяскоўца ўкраў свіное сала і кумпяк.

Праз некалькі дзён у яго загаварыла сумленне, і ён сам прыйшоў у міліцыю з павіннай.

### Пагаварылі

**Да жыхара вёскі Нянадавічы Дзятлаўскага раёна надвячоркам прыйшла ў госці суседка.**

Падчас гамонкі яна ўчыніла скандал, а потым стукнула мужчыну па галаве.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**



Малюнак Яўгена ІВАНОВА

# ТУБЕРКУЛЁЗ — СОЦИАЛЬНОЕ БЕДСТВИЕ



За последние семь лет в Беларуси заболеваемость туберкулёзом выросла в два раза, а смертность — более чем на 50%. Средний показатель заболеваемости туберкулёзом достиг почти 55 на 100 тысяч населения, что примерно в десять раз превышает уровень заболеваемости в странах Западной Европы. В Гомельской и Могилёвской областях он, соответственно, составляет 74,3 и 60,1. А показатель этой болезни в местах лишения свободы равен 1666 на 100 тысяч человек. Какова же обстановка с заболеваемостью туберкулёзом в Слонимском районе? Об этом корреспондент "ГС" беседует с главным врачем противотуберкулёзного диспансера Юрием Запрягаевым (на снимке).

***— Юрий Феликсович, сколько людей в нашем районе болеют туберкулёзом?***

— В настоящее время на учёте в диспансере состоит 139 человек, болеющих активной формой туберкулёза. Начиная с 1991 года заболеваемость в районе возросла, практически, в два раза. До 70% больных выявляются профилактически — методом флюорографического обследования. Особое коварство инфекции в том, что больной на протяжении длительного периода не подозревает о "спящей" в его организме мине замедленного действия.

***— Какие, на ваш взгляд, основные причины заболеваемости туберкулёзом?***

— В первую очередь — ухудшение жизни населения: плохое питание и скверные бытовые условия. Вторая причина — ослабленное внимание на проблемы заболеваемости туберкулёзом со стороны медиков. Я имею ввиду снижение периодичности профилактических осмотров населения. В начале 90-х годов и особенно после Чернобыльской трагедии, сложилось определенное мнение, что флюорография вредна. В связи с этим ее начали проводить среди населения один раз в два года, затем один раз в три года. После этого и стали учащаться случаи выявления запущенных форм заболевания, которые приводят даже к смерти...

**В 1998 году в Слониме три человека умерли от туберкулёза.**

К сожалению, туберкулёз в нашем районе становится таким же социальным явлением, как венерические заболевания, чесотка, педикулёз и другие болезни.

***— Какие меры по борьбе с туберкулёзом принимаются в районе?***

— Слонимские медики разработали целевую программу по снижению заболеваемости населения туберкулёзом. но на мой взгляд, она еще недостаточно эффективна. Необходима более наступательная стратегия в отношении лиц, злостно уклоняющихся от лечения. Это, в основном, люди, которые злоупотребляют алкоголем и ведут беспорядочный образ жизни. В 1998 году мы направили на принудительное лечение в учреждения закрытого типа 10 человек. И в этом году одной из главных задач, стоящих перед нами, является выявление и направление на лечение лиц, которые являются бактерионосителями и способны заразить десятки людей.

В зависимости от тяжести болезни, сроки лечения составляют от 2 до 12 месяцев и более. После возвращения из стационарного лечения, мы в обязательном порядке направляем этих лиц в санатории, расположенные в Новоельне и Святске Гродненской области. Например, в 1998 году в различных санаториях области побывали 44 человека. И тем не менее, находятся больные, которые отказываются ехать в санаторий.

***— Юрий Феликсович, какова стоимость лечения больного туберкулёзом?***

— К сожалению, в настоящее время я не могу назвать точную сумму расходов на лечение больного в нашей республике. Но знаю, что, например, в Германии стоимость полного курса лечения от туберкулёза составляет 2,5 тысяч долларов.

**Беседовал Валентин ЧУРИЛО**

## АКТУАЛЬНО

# ХОЧЕШЬ — НЕ ХОЧЕШЬ, ПРИДЕТСЯ СЛУЖИТЬ

**Недавно я посетил одно из подразделений Слонимской механизированной бригады. Там я имел возможность стать свидетелем обсуждения офицерами недавно вступившего в силу декрета президента Беларуси № 13 "О некоторых мерах по совершенствованию порядка увольнения со службы в запас (отставку) военнослужащих, лиц начальствующего и рядового состава органов внутренних дел, имеющих право на пенсию за выслугу лет".**

Этим нормативным документом президент изменил порядок увольнения военнослужащих и милиционеров, которые имели право на пенсию после 20 и более лет службы. Новые правила предусматривают, что офицеры и прапорщики, имеющие право на пенсию, будут увольняться отныне со службы только при достижении определенного возраста. Для контрактников и прапорщиков этот возраст составляет 45 лет, для младшего офицерского состава от лейтенанта до капитана включительно — 43 года, для майоров и подполковников — 45 лет, а для полковников — 50 лет. Ушла в небытие практика, когда, отслужив 20 и более лет, можно было уйти на заслуженный отдых. В соответствии с декретом, пенсии военнослужащим будут назначаться и выплачиваться начиная с 30 марта 1999 года только по достижению указанного возраста.

По мнению психолога батальона лейтенанта Виталия Кусенкова, большинство его сослуживцев планировали уйти на пенсию, как только прослужат 20 лет. Это позволило бы еще найти себе хорошую работу "на гражданке", получая при этом пенсию. Теперь же им всем придется служить до 40-45 лет.

По мнению Виталия Кусенкова, сильно повезло тем, кто не так давно решился уйти на пенсию. Декрет их уже не коснется, поэтому им завидуют все их бывшие сослуживцы.

— Служить у меня желание есть, — сказал лейтенант, — но за свою нелегкую службу офицер должен получать достойную зарплату, а не мизерное денежное довольствие. В связи с этим многие молодые офицеры, вроде меня, серьезно задумались о целесообразности своей дальнейшей службы.

Наш разговор продолжил заместитель командира батальона майор Дмитрий Водейко:

— Познакомившись с декретом президента, у меня возникло ощущение обманутого человека. Прежде были хоть какие-то гарантии для военнослужащих, а теперь их не стало вовсе. Но самый большой удар пришелся по тем офицерам, которым оставалось служить всего полгода и меньше. Им искренне все сочувствуют.

До выхода в свет декрета президента, все военнослужащие, которые прослужили в войсках 25 лет и имели желание служить дальше, писали рапорт на имя министра обороны. Теперь все офицеры от полковника и выше будут просить разрешение о продлении срока службы уже у самого президента страны.

Оживление в разговор внес подошедший полковник, который попросил не называть его имя.

— Никогда раньше не думал, что мою просьбу о продлении срока службы будет рассматривать сам президент. Но в тоже время подумал, что у президента есть, наверное, более важные вопросы, чем решение судеб сотен таких как я полковников.

В конце нашей беседы у офицеров сложилось мнение, что было бы справедливо, если бы новый порядок выхода на пенсию касался только тех, кто придет на службу в армию после принятия декрета президента.

**Валентин ЧУРИЛО**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Юрыдычны адрас: г.Слонім, Брэсцкая,109/12
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас для пісем: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі............ 2-14-39
............(017) 210-87-17
аддзел рэкламы 2-49-39
E-MAIL:gs@irex.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 14 красавіка 1999г.
Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
Наклад 7.200 экз.
Заказ № 1075
© «Газета Слонімская»
Спасылка на «ГС» абавязковая
Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

ВЁСКА

# РАСКІДАНАЕ ГНЯЗДО Ў СЫНКОВІЧАХ

Вёска Сынковічы на Зэльвеншчыне вядома на ўвесь свет сваёй царквой-крэпасцю XV стагоддзя. Пра гэты славуты помнік мы яшчэ раскажам на старонках нашай газеты. А вось пра яшчэ адзін "помнік" культуры ў цэнтры Сынковіч хочацца расказаць сёння. Гэтым "помнікам" з'яўляецца мясцовы клуб. Сёння ён нікому не патрэбны. У ім паразбіваныя вокны, няма дзвярэй... Вакол клуба знаходзяцца старыя баракі, у якіх жывуць людзі. Там пануюць холад і вільгаць.

— Мы ўжо забыліся, калі ў клубе збіраліся людзі, — сказалі нам жыхары вёскі. — Некалі ён належаў спіртзаводу, было ў ім цёпла, чыста і ўтульна, а цяпер — калгасу. Наш старшыня Харута кантралюе толькі спіртзавод, а клуб яму, мусіць, непатрэбны.

Сапраўды, што сёння возьмеш з сельскага клуба? Толькі адны страты. А вось завод — гэта вялікая справа, бо дзе спірт — там і грошы.

Загадчык аддзела культуры Зэльвенскага райвыканкама Віктар Навасад з горычу сказаў, што даўно ўжо ў Сынковічах няма клуба. І вінаваты ў гэтым у першую чаргу мясцовы калгас "Рассвет"...

Стоячы на ганку апусцелай установы, мы звярнулі ўвагу на буслінае гняздо, якое птушкі зрабілі на слупе. Некалькі гадоў назад кола ад воза зацягнуў на слуп жыхар вёскі Сынковічы Уладзімір Рэпінскі. Цяпер кожны год сюды прылятаюць буслы. Кажуць, што яны гняздзяцца на шчасце. Хочацца спадзявацца, што яно некалі прыйдзе ў Сынковічы.

**Сяргей ЧЫГРЫН**
**Фота Мікалая СУПРУНА**




*Так сёння выглядае Сынковіцкі клуб*

НАВІНЫ

## Дабрачынцы

**У велікодную нядзелю ў слонімскім доме культуры прайшоў дабрачынны канцэрт. Мерапрыемства ў падтрымку дзяцей-інвалідаў Слонімшчыны ладзілі гаркам таварыства Чырвонага Крыжа і дзіцячая музычная школа.**

Педагогі музычнай школы не толькі рыхтавалі праграму, але і распаўсюджвалі квіткі (коштам 40 тыс.руб.) сярод школьнікаў горада.

Пры поўнай зале РДК, карэспандэнт "ГС" налічыў усяго два дзесяткі дарослых разам с сабой. Астатнюю аўдыторыю складалі дзеці.

Дарэчы, падобныя канцэрты дзіцячая музычная школа ладзіць на Вялікдзень ужо сем гадоў запар.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

## Стала дыпламантам

**Вучаніца трэцяга класа Жукоўшчынскай вясковай музычнай школы, што ў Дзятлаўскім раёне, Вольга Дзядовіч у Салігорску прымала ўдзел у рэспубліканскім конкурсе імя Жыновіча.**

Конкурсную праграму дзяўчынка на акардэоне выканала выдатна. Журы прысудзіла ёй трэцяе месца і ўзнагародзіла дыпломам.

## Гучалі народныя песні

**У Погіраўскім вясковым клубе адбылася сустрэча выхаванцаў Дзятлаўскай школы-інтэрната з удзельнікамі народнага вакальнага калектыву гэтай вёскі.**

Жанчыны пад кіраўніцтвам загадчыцы клуба Аляксандры Шыдла праспявалі шмат беларускіх народных песень. Цяпер ён налічвае 16 чалавек. Гэта не толькі спявачкі, але і музыканты, танцоры. Дзеці парадаваліся сустрэчы з народным мастацтвам, а таксама пачастункам, які прыгатавалі для іх удзельнікі ансамбля.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

НАВІНЫ

## "І мы за мір у адказе"

**У Слонімскай бібліятэцы №4 адбылося мерапрыемства, прысвечанае 55-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.**



Наведвальнікі бібліятэкі азнаёміліся з кніжнай выставай, малюнкамі і плакатамі "Не згасне памяці агонь".

Ганаровыя госці-ветэраны Вялікай Айчыннай вайны Макараў Г.Ф., Казлова Н.М., Шаімбаеў А.І. падзяліліся ўспамінамі пра баявы шлях, які ім даявялося прайсці, адказалі на шматлікія пытанні дзяцей.

***На здымку:*** *(злева направа) ветэраны Г.Ф.Макараў, Н.М.Казлова, А.І.Шаімбаеў разам з чытачамі.*

**Ніна ДУБРОЎСКАЯ**
**Фота Уладзіміра ЯНУШЭВІЧА**

## Старость — не помеха

**Недавно читатели-пенсионеры Слонимской городской библиотеки №2 получили поистине прекрасный подарок — вечер юмора.**

Работающие здесь женщины и девушки устроили настоящий праздник людям, которых нередко забывают в коллективах, где они работали раньше, но помнят и уважают здесь. Сюда пенсионеры приходят не только за книгами, но и поделиться своими насущными проблемами, мыслями, переживаниями. За праздничным столом с самоваром велась задушевная беседа, прерываемая шутками и смехом. Много было прочитано стихов и спето песен под аккомпанемент музыканта Виктора Божко.

**Лидия АБЛАЖЕЙ, пенсионерка**

## Сустрэча з мінулым і сучасным

**Адным з асноўных накірункаў дзейнасці бібліятэк Слонімшчыны застаецца адраджэнне гістарычнай і культурнай спадчыны.**

Пры цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Якуба Коласа працуе факультатыў па краязнаўству "Сустрэча з мінулым і сучасным". Тут адбываюцца сустрэчы з цікавымі і таленавітымі землякамі. На чарговае пасяджэнне бібліятэкары запрасілі калекцыянера і заснавальніка культурна-асветніцкага таварыства "Вечавыя званы" Міхаіла Рылко, а таксама былога педагога Зарэму Трафімовіч.

Дзякуючы намаганням Рылко, у музеі кнігі пры цэнтральнай бібліятэцы працуе выстава даволі рэдкіх беларускіх друкаваных выданняў і прадметаў побыту пачатку 20 стагоддзя.

З вялікай цікавасцю прысутныя слухалі Зарэму Іванаўну Трафімовіч, якая напісала свой радавод у вершах, пачынаючы ад прадзедаў.

Літаратурная гасцёўня, дзе праходзіла гэта мерапрыемства, была ўпрыгожана вырабамі народнай умельцы Т.Буланавай.

**Ларыса РЭПІНСКАЯ**

ПРЭМ'ЕРА

# ГЕРОІ КІПЛІНГА НА СЛОНІМСКАЙ СЦЭНЕ

**У Слонімскім беларускім драматычным тэатры адбылася прэм'ера новага спектакля для дзяцей "Маўглі".**

Дзякуючы мясцоваму драматургу Аляксею Якімовічу, героі вядомага англійскага пісьменніка Рэдзьярда Кіплінга ажылі на тэатральнай сцэне. Менавіта паводле аповесці-казкі пра жыццё чалавечага дзіцяці Маўглі сярод звяроў наш драматург напісаў п'есу. Калі Аляксей Якімовіч не навічок у драматургіі, то рэжысёр-пастаноўшчык спектакля — дэбютант. Гэта Святлана Наўгародская.

Скажу шчыра, не ўсё ўдалося ажыццявіць маладому рэжысёру, але спектакль атрымаўся. Ён дапаможа юным гледачам зрабіць маленькую экскурсію ў сцэнічныя джунглі, дзе існуюць свае законы, свае норавы і героі.

Галоўнымі героямі спектакля з'яўляюцца Маўглі (артыст Уладзімір Навумік) і Месуа (артыстка Наталля Шугай). Калі Месуа — звычайная вясковая дзяўчынка, дык закон джунгляў навучыў Маўглі быць дужым і спрытным, а таксама стрыманым, бо ў джунглях ад гэтага залежыць жыццё. Такім спакойным і стрыманым атрымаўся і Маўглі Уладзіміра Навуміка.

Станоўчых герояў ваўка Шэрага Брата і мядзведзя Балу сыгралі Сяргей Лішык і Віктар Шчарбакоў. Па-рознаму артыстам удалося іх увасобіць, але гледачам яны запомняцца.

Вобразы тыгра Шэр-Хана (артыст Сяргей Фурса) і паляўнічага Балдзео (артыст Васіль Сявец) атрымаліся па-свойму арыгінальнымі. Менавіта яны больш ярка вызначылі жанр спектакля, як рамантычную камедыю для дзяцей. А чаму б і не? З гэтым пагадзіўся і аўтар п'есы "Маўглі" Аляксей Якімовіч.

**Сяргей ЧЫГРЫН**
**Фота Мікалая СУПРУНА**



*Сцэны са спектакля «Маўглі»*



# ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ

● Чтобы стекла очков не запотевали при малейшей перемене температуры воздуха, надо протереть их смесью глицерина со спиртом (5 частей спирта и 1 часть глицерина).

● Если застежки "молнии" загрязнились или с трудом застегиваются, попробуйте почистить их старой зубной щеткой и слегка смазать вазелином.

● Чтобы почистить сами зубные щетки, нужно опустить их на несколько минут в стакан с холодной водой, в которую добавлено немного нашатырного спирта.

● Часто модная бижутерия из металла оставляет темные следы на коже и одежде, этой неприятности можно избежать, если покрасить металлические украшения с "изнаночной" стороны лаком для ногтей.

● Если вы обронили пуховку с пудрой на темное платье, не смахивайте пудру рукой и не чистите щеткой, а просто сдуйте ее и слегка встряхните испачканный участок ткани.

● Грелка с горячей водой будет дольше оставаться горячей, если в воду добавить немного соли.

● Серебряные предметы восстановят свой блеск, если опустить их на 2-3 часа в воду с нарезанным сырым картофелем, а затем сполоснуть чистой водой.

● Ржавчина на раковине легко снимается горячим уксусом, а никелированные краны в ванной можно освежить, протерев их уксусом с солью.

● Оконные рамы можно оклеивать на зиму бумагой, смоченной в молоке.

● Белые кожаные сумки, обувь, пояса дольше сохранят свой цвет, если чистить их смесью молока и взбитого яичного белка.

● Кожаные сумки хорошо чистятся разрезанной луковицей. Пятна же можно удалить смесью уксуса и воды (в равных частях).

● Если обувь имеет неприятный запах пота, ее следует протереть изнутри раствором марганцовки.



# ГОРОСКОП

## С 15 ПО 21 АПРЕЛЯ

**ОВЕН**

Период – не из легких, но вы сможете с честью выдержать любые испытания. Кроме того, неожиданные деньги позволят решить массу мелких домашних проблем – от мелких покупок до значительных приобретений для семьи.

**ТЕЛЕЦ**

Конец недели будет омрачен ссорой с близким человеком, при чем вина, скорее всего, будет за вами. Но уже с 20-го апреля все наладится, и вы обретете душевное равновесие. Предстоит два коротких путешествия, а также перспективное деловое знакомство.

**БЛИЗНЕЦЫ**

Вы склонны пуститься в любовные авантюры. И не напрасно! Повыситься обаяние, вы будете нравиться всем, и также активно готовы влюбиться в целый полк. Высокая работоспособность и хорошая отдача у тех, кто интенсивно работал в феврале.

**РАК**

Переменчивое настроение, склонность к депрессии, недовольство окружающей обстановкой и людьми. Но вам не идет дуться на весь белый свет. Запомните, что только улыбка делает вас неотразимыми! Приготовьтесь к переменам на работе.

**ЛЕВ**

Приготовьтесь к денежным поступлениям и запланируйте первоочередные неотложные траты, поскольку есть немалый риск угрохать все средства на любимого человека, который почему-то стал к вам несколько холоден. Известие издалека. Возможна дорога.

**ДЕВА**

Если вы еще не уладили свои сердечные дела, можете и не начинать. В этот период вам ничего хорошего "не светит". А вот новости на работе могут порадовать. У семейных Дев очень неплохое время – дети послушны, супруги внимательны.

**ВЕСЫ**

Ничем не омраченная личная жизнь может слегка осложниться или собственным недомоганием или болезнью близких. В профессиональной сфере – значительные препятствия, которые окажутся для вас полной неожиданностью. Финансовые проблемы.

**СКОРПИОН**

Как только подвернется возможность поездки, отправляйтесь в дорогу: она будет не только безопасной, но и прибыльной. Не исключен также и хороший отдых в выходные дни – встречи с друзьями, или семейный пикник на природе.

**СТРЕЛЕЦ**

Неприятности на работе могут быть связаны с невыполнением партнерами своих обязательств. Они не выполняют, а отвечать вам! Не справедливо! В семейной жизни возможен переворот из-за какого-то известия или визита.

**КОЗЕРОГ**

На работе все будет катиться само собой, как по рельсам. Поэтому можете смело заниматься личной жизнью, не опасаясь, что пострадает ваше любимое производство. Незамужние Козерожки могут встретиться с новым чувством. Весьма многообещающим.

**ВОДОЛЕЙ**

Тем из вас, кто собрался приобрести недвижимость, может очень здорово повезти. Долгий поиск хорошего варианта увенчается успехом. У остальных Водолеев – неплохие финансовые поступления. Домашние "грозят" ремонтом.

**РЫБЫ**

Ваш труд скорее всего не будет оценен коллегами и начальством. Но вы-то сами хорошо знаете, чего хотите! Поэтому продолжайте, не взирая на происки врагов. Женщины-Рыбы, несмотря на весенние дни, на грани нервного срыва.

**За мінулы тыдзень у Слонімскім аддзеле ЗАГСа зарэгістраваны дзеткі, якія нядаўна нарадзіліся:**

Хрысціна Ганчарова
Ксенія Скок
Фаціма Ібрагімава
Алена Фідрык
Вольга Жураўлёва
Вікторыя Фядосік
Максім Сеч
Ганна Крупнік
Ганна Роўгач
Вераніка Купрыян
Кірыл Гвазданаў
Аляксей Грыпіч
Анастасія Карпенка
Дзмітрый Ягаўдзік

# СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ

✝

| | |
|---|---|
| **Міхіца** Анатоль Сідаравіч | 1929 г.н. |
| **Конанаў** Анатоль Ціханавіч | 1928 г.н. |
| **Сцепчык** Анатоль Іванавіч | 1923 г.н. |
| **Падрэцкі** Канстанцін Якаўлевіч | 1934 г.н. |
| **Ягораў** Рыгор Рыгоравіч | 1919 г.н. |
| **Ільін** Васіль Мікітавіч | 1922 г.н. |
| **Райас** Станіслава Францаўна | 1905 г.н. |
| **Каленка** Юзэфа Францаўна | 1929 г.н. |
| **Петухова** Анастасія Рыгораўна | 1913 г.н. |
| **Ракуць** Георгій Міхайлавіч | 1939 г.н. |

✝

Паважаны Васіль Васільевіч **Пілецкі**!

Разам з Вамі глыбока смуткуем і выказваем шчырыя спачуванні з прычыны напаткаўшага Вас вялікага гора — цяжкай страты самага блізкага чалавека — смерці **бацькі.**

*Калектыў групы 17МС ПТВ-189 г.Слоніма*

✝

Коллектив участка сувениров фабрики художественных изделий выражает свои соболезнования**Ракутю** Валерию Георгиевичу и его семье в связи с постигшим их горем — преждевременной смертью **отца.**



## КРОССВОРД от Олега ЯКИМЦА

**ПО ГОРИЗОНТАЛИ:**

**2**. Советский физик, совместно с Л.И. Мандельштамом поставивший опыт по доказательству электронной проводимости металлов. **6**. Полупроводниковый прибор с p-n – переходом. **7**. Российский физик, экспериментально установивший закон теплового действия тока. **11**. Примесный атом в полупроводнике. **12**. Российский физик и электротехник, создатель гальванопластики. **15**. Отрицательный электрод. **16**. Верхние слои атмосферы со значительным содержанием ионов и электронов. **17**. Знак заряда атомного ядра. **19**. Совокупность электрических цепей. **20**. Бытовой источник постоянного тока. **21**. Прибор для регулирования силы тока. **22**. Центральная область биполярного транзистора. **25**. Мельчайшая частица химического элемента. **27**. Образование ионов и электронов из нейтральных молекул. **28**. Направленное движение носителей заряда под действием внешних полей. **30**. Самый большой шаровой проводник, имеющийся в распоряжении электриков. **31**. Французский физик, основатель электростатики. **34**. След заряженной частицы. **35**. "Прибор", помогающий определить направление силы Лоренца. **36**. Электроизмерительный прибор.

**ПО ВЕРТИКАЛИ:**

**1**. Электронно-лучевой прибор. **3**. Положительный электрод. **4**. Излучение, необходимое для работы фоторезистора. **5**. Тонкие листы из сплава свинца и олова, применяющиеся для изготовления конденсаторов. **6**. Английский физик и химик; установил зависимость сопротивления проводника от его длины и поперечного сечения. **8**. Металл, используемый в элементе Вольта. **9**. Переносчик электромагнитного взаимодействия между заряженными частицами. **10**. Советский физик, один из первых исследователей свойств полупроводников. **13**. Одна из областей биполярного транзистора. **14**. Вещество, обладающее свободными зарядами. **18**. Эквипотенциальная поверхность поля точечного заряда. **19**. Управляющий электрод в электронной лампе. **22**. Простейший прибор, помогающий определить направление вектора магнитной индукции. **23**. Знак заряда электрона. **24**. Устойчивая взаимосвязь материальных явлений. **26**. Американский физик; с высокой точностью измерил заряд электрона. **29**. Действительное событие. **30**. Область значений энергии, которой могут обладать электроны в твердом теле. **32**. Время года, благоприятное для работы гелиостанций. **33**. Резистор, присоединяемый параллельно амперметру для изменения цены деления шкалы.

## АНЕКДОТЫ

☺ Останавливает гаишник красный «Чероки». Внутри — лицо кавказской национальности, непристегнутое. Гаишник:
— Платите штраф!
— Слушай, дарагой, дэнэг нэт!
— Издеваешься???
— Дарагой, 500 рублей получаю, нэту дэнэг!
— 500 рублей? И на «Чероки» ездишь?!
— Слушай, я в армии семь рублэй получал и на танке ездил - нэту дэнэг!

☺ — Вы не можете даже представить, как мне трудно, - жалуется пациент психиатру.
— Моя жена задает мне вопрос, потом сама на него отвечает. А через полчаса начинает объяснять мне, почему я ответил неправильно!

☺ В кабинете психиатра врач спрашивает:
— На что жалуетесь?
— Мне постоянно кажется, что меня кто-то преследует.
— И давно это с вами?
— С тех пор, как я бежал из тюрьмы.

☺ — Дорогая, мужчины очень глупы. Представь себе, всякий раз, когда мне нужны деньги, я устраиваю скандал мужу и угрожаю уехать к маме.
— И это действует?
— Конечно, каждый раз он дает мне деньги на билет.

НАШЫ ГОСЦІ

# СЛОНІМ ЁЙ ПАДАЎСЯ МУЗЕЯМ XIX СТАГОДДЗЯ

Днямі рэдакцыю "Газеты Слонімскай" наведала госця з Германіі Карнэлія Розберг.



Яна жыве ў горадзе Кобург, што ў паўночнай Баварыі. Спадарыня Розберг працуе медсястрой у клініцы для разумова адсталых людзей. Утрымліваецца бальніца на сродкі царквы. Падчас гутаркі госця паведаміла, што яна з'яўляецца сакратаром мясцовай арганізацыі сацыял-дэмакратычнай партыі. Дарэчы, менавіта ў складзе партыйнай групы Карнэлія прыехала ў Беларусь.

Акрамя рэдакцыі "ГС", сп. Розберг зрабіла экскурсію па Слоніме: наведала Свята-Троіцкі храм, касцёл св. Андрэя, неўралагічнае аддзяленне бальніцы, сустрэлася з лідэрамі мясцовых партыйных суполак і грамадскіх арганізацый.

Пасля наведвання бальніцы, немка выйшла са слязьмі на вачах.

— Я чула, што ў Беларусі людзі дрэнна жывуць, але каб так жудасна, ніколі не думала, — сказала Карнэлія. — Слонім мне нагадвае маё дзяцінства, калі я жыла пры савецкай уладзе ва ўсходняй Германіі: той жа бедны асартымент тавараў, тыя ж умовы ў медыцынскіх установах... Слонім мне падаўся музеям XIX стагоддзя, ён мала падобны на сучасны горад, — з жалем падсумавала госця. Была яна здзіўлена і тым, калі даведалася, што ўвесь гадавы гарадскі бюджэт складае ўсяго каля трох тысяч даляраў.

Карнэлія Розберг актыўна супрацоўнічае з мясцовай газетай "Coburger Tageblatt" ("Кобургская штодзённая газета"). Спадарыня Розберг сказала, што на старонках гэтай газеты будзе надрукаваны артыкул пра яе візіт у Слонім.

**На здымку:** Карнэлія Розберг

**Наталля ФУРСАВА, фота Мікалая СУПРУНА**



СПОРТ

## Пачынаецца чэмпіянат

**У нядзелю, 18 красавіка, стартуе чарговы чэмпіянат Беларусі па футболу ў першай лізе. Слонімскі "Камунальнік" свой першы матч згуляе ў Жодзіна з мясцовым "Тарпеда".**

У складзе нашай каманды, якой кіруе галоўны трэнер Аляксей Шубянок, разам з навічкамі, пакуль 19 ігракоў. Варатары — Ігар Кіркіж, Сяргей Бекіш і Валянцін Гайдзецкі, абаронцы — Андрэй Пагоцкі, Мікалай Дым, Яраслаў Ясінскі, Андрэй Сіліванаў і Сяргей Купрыкаў, паўабаронцы — Анатоль і Валянцін Дзегілі, Аляксей Баль (капітан каманды), Мікалай Астапчык, Аляксандр Агейчык, Пётр Уладзімірскі і Дзмітрый Ананчанка, нападаючыя — Алег Савіцкі, Яўген Савань, Георгій Татарашвілі і Яўген Раманаў.

У адпаведнасці з рэгламентам чэмпіянату, па выніках сезону ў вышэйшую лігу трапляюць два мацнейшыя клубы першай лігі. Дзве слабейшыя каманды перайдуць у другую лігу.

Пажадаем нашай камандзе шчаслівага старту і першых ачкоў.

**Алег ТАЧОНЫ**

## "Бронза" у слонимчанина

**В Светлогорске прошли VI молодежные игры Республики Беларусь по боксу.**

В составе команды Гродненской области (юноши 1981-82 г.р.) выступал учащийся Слонимской ДЮСШ №1 Игорь Панфилович, который завоевал бронзовую медаль в весовой категории 67 кг.

**Владимир ПИРОЖНИК**

ЗДАРЭННІ

## Трагедыя ў Хадзявічах

**71-гадовы Аляксандр Рагозік з вёскі Хадзявічы Слонімскага раёна падчас сваркі ўдарыў нажом у шыю 37-гадовага аднавяскоўца Піліпа Акулку.**

Не прыходзячы ў прытомнасць, мужчына памёр у бальніцы.

## Абакраў аднакурснікаў

**Каб паправіць сваё матэрыяльнае становішча, навучэнец Жыровіцкага сельгастэхнікума Ф. вырашыў абчысціць кішэні сваіх аднакурснікаў.**

Наведаўшы адзін з пакояў студэнцкага інтэрната, ён украў там 700 тыс. рублёў.

## Крадзёж у Ашнаравічах

**У мінулую суботу невядомыя зламалі дзверы ў магазіне вёскі Ашнаравічы Слонімскага раёна.**

Яны ўкралі тавараў на суму звыш 30 мільёнаў рублёў.

## Грошы-грошы

**Не ўдалося добра зарабіць сланімчанцы Р., якая днём залезла ў адзін з дамоў на Загараднай вуліцы, дзе ўкрала 9 млн. рублёў.**

Зладзейку слонімская міліцыя хутка затрымала.

## Згарэў гараж з машынай

**На месцы гаража засталося папялішча і рэшткі аўтамабіля "Аўдзі-100", што належалі жыхару вёскі Новадзевяткавічы Аляксандру Халецкаму.**

Вечарам у гаражы ён паставіў на падзарадку акумулятар, а ноччу ад замыкання электраправодкі ўзнік пажар.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

НАШЫ ГОСЦІ

# ЯГО Ў НАРВЕГІІ НАЗВАЛІ "ЖАМЧУЖЫНАЙ СЦЭНЫ"



На мінулым тыдні ў Слоніме на гастролях знаходзіўся Магілёўскі абласны тэатр лялек. Ён паказаў дзецям спектакль "Казка пра маленькую кропельку". Галоўную ролю ў спектаклі выконваў артыст Мікалай Сцешыц. Дарэчы, шэсць гадоў назад гэты артыст працаваў у Слонімскім беларускім драмтэатры. Выконваў ролі ў спектаклях "Сабака з залатым зубам", "Лекі ад кахання", "Антосік і гармонік", "Чарадзейныя суніцы" і ў іншых.

Карэспандэнт "ГС" сустрэўся з Мікалаем Сцешыцам і папрасіў яго адказаць на некалькі пытанняў.

***— Мікалай, як склаўся твой жыццёвы і творчы лёс пасля Слонімскага беларускага драмтэатра?***

— У жыцці я пакуль адзінокі, нікому не патрэбны (усміхаецца). А ў тэатры ўсё добра, там ёсць стымул працаваць, стымул творчага росту. Мне здаецца, калі б я працаваў у Слоніме, артыста вышэйшай катэгорыі я б не меў. А сёлета плану стаць нават майстрам сцэны. Гэта з аднаго боку. З другога, Магілёўскі абласны тэатр лялек — гэта вельмі цікавы тэатр. Кожны новы спектакль — гэта новая сістэма лялек, там ёсць і опера, і балет, і драма. Там артыст іграе дзве ролі, а гледачы бачаць і ляльку, і артыста на сцэне.

***— Няўжо табе так сумна і дрэнна жылося і працавалася ў Слоніме?***

— Не. Час у Слонімскім беларускім драматычным тэатры пакінуў светлыя ўспаміны. Тут працуюць цудоўныя людзі. Ім трэба помнікі ставіць на Чырвонаармейскай вуліцы за тое, што яны ў вас ёсць і працуюць у такіх складаных умовах, жывуць у глыбінцы і практычна ніколі, не разумею толькі чаму, не паказваюцца "у людзі", не "падпітваюцца". А гэтай "падпіткай" з'яўляюцца тэатральныя фестывалі, конкурсы, творчыя сустрэчы ў вялікіх гарадах і краінах. У вашых артыстаў гэтага няма. А ў нас усё наадварот. Мы пастаянна прымаем удзел ва ўсіх фестывалях, шмат гастраліруем па Беларусі, Расіі, Прыбалтыцы, Украіне, былі ў Нарвегіі, Германіі, Балгарыі. Я сам асабіста пагледзеў сотні спектакляў, бачыў шмат тэатраў, меў вялікую колькасць сустрэч з акцёрамі, рэжысёрамі, драматургамі. Гэта вялікая школа. Мяне ў Нарвегіі, пасля гастроляў, адна газета назвала "жамчужынай сцэны". Гэта прыемна. Гэта натхняе на творчасць. А слонімскія артысты "варацца ў сваім соку". Яны абмяжаваныя, у іх няма росту, стымулу, надзеі на вялікія ўдачы і радасці. Ім цяжка. Відома, дзеля гэтага трэба шмат працаваць на сцэне, ахвяраваць сваім асабістым часам, жыць толькі тэатрам...

***— ...і тады будуць творчыя ўдачы і перамогі. А ў цябе яны ёсць?***

— Вядома ёсць. Толькі сёлета на рэспубліканскім конкурсе маладых выканаўцаў тэатраў драмы і лялек, які праходзіў у Гродне, я атрымаў першую прэмію.

***— Мікалай, ты, мусіць, больш любіць тэатр лялек, чым тэатр драмы?***

— Я наогул люблю тэатр. У нас у Магілёве на спектаклі лялечнага тэатра білеты раскупляюцца за месяц, а ў драматычны тэатр людзі ходзяць слаба.

***— Ці падтрымліваеш ты сувязь з артыстамі Слонімскага драмтэатра?***

— Я часам сумую па Слоніму, бывае, званю артыстам, пытаюся, як справы ў тэатры. А ў гэтыя дні сустрэч мне проста радасна. З вялікім задавальненнем выйшаў бы сёння на сцэну са слонімскімі артыстамі Таццянай Натаравай, Уладзімірам Навумікам, Інай Ерш, Вікторыяй Міхальчык. Таму ім і ўсяму калектыву хачу пажадаць дабра, а жыхарам Слоніма, каб часцей хадзілі ў тэатр.

**Гутарыў Сяргей ЧЫГРЫН, фота Мікалая СУПРУНА**

ЭКАЛОГІЯ

# НІЧОГА... АКРАМЯ ШКОДЫ

Зараз стаіць сухое і цёплае надвор'е, вялікія ўчасткі сухога травастою выгараюць каля Шчары, Ісы, уздоўж дарогі Слонім-Баранавічы. Цяпер выжары назіраюцца амаль каля кожнай вёскі. У асобных месцах, як напрыклад, каля вёскі Якімавічы яны ахопліваюць плошчы ў некалькі гектараў. Спаленая трава мае незайздросны выгляд, нібы прайшоў вогненны смерч. І гэта не перабольшванне, бо шкода, нанесеная прыродзе, відавочная. У выніку, ад такіх пажараў згарае вялікая колькасць арганічнага рэчыва. Тым больш, што з рэштkaў мінулагодніх раслін утвараецца ўрадлівы верхні слой. І гэта не ўсё.

Менавіта вясна з'яўляецца перыядам гнездавання птушак: перапёлкі, жаўрукі, кнігаўкі, курапаткі, цецерукі, якія выводзяць маладняк у гнёздах на паверхні глебы. Знішчаючы траву, мы знішчаем гнёзды. Атрымліваецца, што мы толькі шкодзім прыродзе. Былі выпадкі загарання і лесу, як, напрыклад, каля Новай Стражы, у Альбярціне.

Відавочна, што спальванне сухой травы не што іншае, як наша безгаспадарчасць і абыякавасць.

**Міхась СТАРЫК**



## Будзьце асцярожныя з агнём

**Вясной складваецца трывожная пажаранебяспечная сітуацыя. Людзі выпальваюць траву, бытавое смецце.**

Усім трэба памятаць, што сухія торф, мох, лісце, трава, дробныя галінкі — гэта гаручыя матэрыялы. Адной кінутай запалкі, непатушанага акурка ці вогнішча дастаткова, каб узнік пажар. Таму абавязак кожнага грамадзяніна — быць вельмі асцярожным з агнём у гэты перыяд.

**Віктар ЗІМНІЦКІ, інспектар дзяржпажарнагляду**





# СЛОНІМСКІ БЕЛАРУСКІ ДРАМАТЫЧНЫ ТЭАТР

29 красавіка 1999 года ў 18 гадзін праводзіць адборачны творчы конкурс моладзі, якая мае сярэднюю агульную адукацыю, а таксама для сённяшніх выпускнікоў, з мэтай выяўлення здольных да тэатральнай творчасці.

Тыя, хто паспяхова вытрымае конкурс, будуць залічаны ў Беларускую акадэмію мастацтваў па спецыяльнасці "Акцёр тэатра і кіно", на выдзеленыя для тэатра студэнцкія вакансіі.

За кансультацыяй звяртацца да спецыялістаў па адрасе:

**Слонім, вул.Чырвонаармейская, 25. Тэл. 2-59-63.**